Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

10 (570) 10 сакавіка 2011 года

Кошт свабодны.

Мёрскі раён

# Сустрэчная чорная паласа

■ Чэслаў Якубовіч

**Ёсць падзеі, якія нікога не пакідаюць раўнадушнымі і прымушаюць думаць аб каштоўнасці чалавечага жыцця, якое можа абарвацца ў любую хвіліну.**

Вось і ў Мёрскім раёне з жалем і болем ўспрынялі вестку аб трагічнай гібелі ля вёскі Масеўцы на аўтатрасе Полацк-Браслаў адразу трох жыхарак райцэнтра розных узростаў. Сярод іх аказалася і маленькая дзяўчынка, якая толькі 8 дзён назад нарадзілася ў раддоме Наваполацка. У той страшны дзень маладая сям'я з немаўляці і суправаджаючай медсястрой вярталіся дамоў. Пасля дзвюх гадзін дня пры добрай бачнасці , на жаль, адбылося моцнае лабавае сутыкненне на сустрэчнай паласе дзвюх іншамарак. У выніку трагедыі на месцы дарожна-транспартнага здарэння загінула і 20-гадовая маладая жанчына-мама. Вадзіцель больш пацярпелай машыны "Форд-эскорт" і малады тата не загінулі. Іх супрацоўнікі райаддзела МНС дасталі з пераламанымі нагамі з груды металу пры дапамозе спецыяльных прыстасаванняў. Такім чынам былі дэблакіраваны і целы загінуўшых жанчын пры сутыкненні. А вось вадзіцель і пасажыр другога аўтамабіля "Фальксваген-шаран" у ДТЗ не пацярпелі. Гэта недарэчная трагедыя яшчэ доўга не забудзецца, паколькі замест радасці папаўнення ў сям'і прынесла непапраўнае страшэннае гора.



## Лічба нумара

**20** – такія страты прынесла ў студзені гэтага года перапрацоўка нафты толькі на ААТ "Нафтан". Крыху лепшая сітуацыя была ў пачатку года на другім айчынным нафтаперапрацоўчым заводзе ў Мазыры, там адпаведныя страты з-за малых аб'ёмаў паставак бяспошлінай расійскай нафты былі меншыя на 5 млн. долараў. Аднак і ў лютым, хоць перапрацоўка нафты з РФ дасягнула ўжо каля 1,6 млн. тон ( у студзені такія пастаўкі склалі ўсяго 356,1 тыс. тон), абодва беларускія НПЗ зноў не змаглі забяспечыць сваю прыбытковую дзейнасць.

Між іншым, з-за няпростых адносін летась на гэтым рынку з расійскімі пастаўшчыкамі сыравіны завод у Наваполацку істотна знізіў аб'ёмы вытворчасці сваёй прадукцыі. У мінулым годзе таксама раслі і зараз працягваюць узрастаць цэны для беларусаў на расійскі газ. У выніку і другі буйнейшы падаткаплацельшчык Віцебскай вобласці – РУП "Віцебскэнерга" адчуваў цяжкасці, працаваў нерытмічна, як раней. Абласны бюджэт толькі з-за двух гэтых прамысловых гігантаў недалічыўся паступлення больш за 50 млрд. рублёў, а адмоўнае сальда знешнегандлёвага балансу Віцебшчыны стала адным з самых вялікіх у краіне.

Як звычайна бывае, адна бяда прыводзіць да новых праблем. Да пачатку вясны ў асноўнага данара беларускага дзяржбюджэту – нафтахіміі– рэнтабельнасць перапрацоўкі нафты пакуль адмоўная і складае мінус 3-4 %. Зразумела, у гэтых умовах не абысціся было без росту ўнутраных цэн на нафтапрадукты. Беларускі ўрад вымушаны быў запусціць махавік інфляцыі і на 10 % павысіў аптовыя цэны на керасін, мазут, пячное паліва, нафтабітум і гудрон, каб крыху падтрымаць айчынныя НПЗ у Наваполацку і Мазыры.

Таксама ва ўрадзе былі прапановы аб павышэнні цэн на 8-20 % на дызельнае паліва і бензін. Пайсці на такі непапулярны крок не рашыліся, бо дыспрапорцыі і перакосы ў развіцці беларускай эканомікі (іх сведчанне– пастаянны рост цэн у Беларусі на спажывецкія тавары і паслугі) сталі відавочнымі для большасці суайчыннікаў. Нават пенсіянеры цяпер усведамляюць, як аукнуўся перад выбарамі неабгрунтаваны і не падмацаваны ростам ВУП рэзкі скачок зарплат, павышэнне пенсій і іншых сацыяльных выплат.

Зрэшты, толькі выбары прайшлі– інфляцыя ў снежні 2010 года дала аб сабе ведаць і цэны на харчаванне тады апярэдзілі аналагічны паказчык 2009 года аж на 13,1 %. Сёлета зімой у нас што толькі не даражэла. Апроч цукру, у "рэкардсменах" тут сталі падросшыя заднім чыслом паслугі аплат за навучанне на платных аддзяленнях ВНУ (на 13 і нават да 30 % у асобных навучальных установах). Істотна падаражэлі камунальныя паслугі ЖКГ. Пад дых і адмена бясплатнага праезду школьнікаў. Настолькі пагоршылася абстаноўка ў краіне, што загаварылі адкрыта аб скарачэнні бюджэтнікаў на 10-15 %.

Калі гэта адбудзецца, лішнімі апынуцца каля 150 тысяч працаўнікоў бюджэтнай сферы. У гэтых умовах канцэрн "Белнафтахім" заявіў аб неабходнасці ліквідаваць празмернае субсідзіраванне ў галіне. Будуць павышаны на 5-10 % аптовыя і рознічныя цэны на светлыя нафтапрадукты. Увогуле, жыць з кожным днём становіцца "вясялей", бо рэальная зарплата ў студзені па РБ знізілася на 12,9 % пры росце цэн. Аднак за дзетсад у лютым бацькам немаўлят трэба было заплаціць болей на 36,6 % . Ужо і міфічных 500 долараў намінальна беларусы не зарабляюць і аб сытым жыцці павінны забывацца.

Як ні сумна, а трэба большасці з нас рыхтавацца да зацягвання паясоў і змяншэння даходаў, паколькі з 1 сакавіка цэны ў Беларусі адпусцілі згодна указа аб іх лібералізацыі. З 1 ліпеня цэны на патрыманыя іншамаркі стануць касмічнымі і недаступнымі для большасці аўтааматараў. На гэтым фоне паўстае праблема вялізных знешніх даўгоў. Але гэта заўсёды бывае, калі кіраванне эканомікай ажыццяўляецца дзеля папулісцкіх задач, састарэлым спосабам. Калі сітуацыю не пераламіць, то і ў нас можа здарыцца неверагоднае: магутны сацыяльны пратэст. Становішча не толькі на айчынных НПЗ, але і ў шэрагу галін эканомікі пакуль трывожнае.

Пастаўскі раён

# Надзейна служаць Айчыне

■ Кастусь Александровіч

**На працягу мінулага стагоддзя і зараз Паставы застаюцца буйным ваенным гарнізонам.**

Менавіта тут раней размяшчалася царская кавалерыйская афіцэрская школа, дыслацыраваліся часці Войска Польскага, падчас двух Сусветных войн праходзілі жорсткія баі за горад. Дагэтуль мясцовая моладзь актыўна звязвае сваё жыццё са службай у арміі, а воіны гарнізона годна працягваюць слаўныя традыцыі старэйшых пакаленняў, аб гэтым узгадвалася падчас нядаўніх урачыстасцей у райцэнтры з нагоды Дня абаронцаў Айчыны.

Цяпер асноўная маса мясцовых вайскоўцаў пагранічнікі, аднак тут размяшчаецца і Першы радыётэхнічны цэнтр, які пастаянна нясе баявое дзяжурства, выяўляе і суправаджае кожныя суткі да 200 і болей паветраных суднаў. Гэта падраздзяленне летась пераснасцілася некалькімі цалкам мадэрнізаванымі навейшымі станцыямі пошуку і радыёлакацыі. Баявыя разлікі пастаўчан удастоіліся гонару прымаць удзел у ваенным парадзе ў беларускай сталіцы. Сёлета яны будуць сваёй тэхнікай забяспечваць баявыя пускі беларускіх ракетчыкаў на расійскім палігоне "Ашулук". Дарэчы, і іншыя часці гарнізона – авіятрад, ваенны шпіталь і аддзел пагранслужбы "Паставы"– займаюць першыя месцы ў краіне па выніках аператыўна-службовай дзейнасці.

Глыбоцкі раён

# У камбіната – новы філіял

■ Станіслаў Раманчук

**Адзін з самых вядомых айчынных брэндаў малочнай галіны – ААТ "Глыбоцкі малочнаканcервавы камбінат" зараз выпускае больш за 80 відаў сваёй прадукцыі.**

У адрозненне ад сваіх калег, глыбачане ўжо болей за 60 % вырабаў адгружаюць за мяжу, пераважна ў Расію і Казахстан. У глыбоцкіх малакаперапрацоўшчыкаў з казахамі ёсць свае сумеснае прадпрыемства. Таксама завадчане маюць на балансе і свой сельскагаспадарчы філіял "Мнюта" з сучаснай малочнатаварнай фермай, а таксама філіял у Браславе. У азёрным краі разам з Шаркоўшчынскім раёнам дадатковая сыравінная база. Зараз глыбачане ў Браслаўскім раёне неспадзявана дадаткова атрымалі яшчэ адзін філіял, цэлы рыбакансервавы цэх. Апошнім часам у Браславе працаваў філіял сталічнага аб'яднання "Белрыба", які перадалі ў камунальную ўласнасць Віцебскай вобласці. Там да гэтага часу выраблялі розныя рыбныя кансервы, пачалі выпускаць і беларускія шпроты. У хуткім часе пройдзе перадача цэха пад юрысдыкцыю Глыбоцкага МКК. Камбінату трэба будзе захаваць працоўныя месцы, забяспечыць папярэднюю спецыялізацыю і нарасціць выпуск незвычайнай для сябе прадукцыі. Тэхнолагам МКК не абысціся без вывучэння лепшага замежнага вопыту, каб замацаваць свае пазіцыі на дадатковым для сябе рынку.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 03.03.11 | | | | пятн. 04.03.11 | | | | сб. 05.03.11 | | | | нядз. 06.03.11 | | | | пн.07.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -4 | -4 | 0 | -1 | 0 | +1 | +1 | -2 | -4 | -3 | +1 | -2 | -5 | -6 | +1 | 0 | +1 | +2 | +3 |
| Ціск, мм | 748 | 746 | 746 | 744 | 742 | 738 | 735 | 739 | 742 | 744 | 746 | 750 | 753 | 754 | 754 | 752 | 749 | 747 | 747 |
| Вільготнасць, % | 81 | 81 | 89 | 94 | 94 | 96 | 94 | 80 | 87 | 91 | 86 | 86 | 94 | 95 | 90 | 86 | 92 | 95 | 96 |
| Вецер м/сек | Ю 7 | Ю 6 | Ю 5 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 8 | Ю-З 8 | З 9 | З 6 | Ю-З 5 | З 6 | З 4 | З 3 | Ю 2 | Ю-В 4 | Ю-В 6 | Ю 6 | Ю 5 | Ю-З 3 |
| | | 06:38 | 18:02 | | | 06:36 | 18:04 | | | 06:33 | 18:06 | | | 06:31 | 18:08 | | | 06:28 | 18:10 |
| | | 07:50 | - | | | 08:21 | 00:53 | | | 09:03 | 01:57 | | | 09:59 | 02:52 | | | 11:08 | 03:36 |

## Дзень за днём

**Новы склад беларускага ўрада сваёй праграмай дзейнасці на 2011-2015 гады выбраў пераход на рынкавыя формы гаспадарання і рэформы ў сферы кіравання. Беларусь павінна зрабіць тэхналагічны рывок у сваім развіцці, арыентуючыся на аналагічны вопыт Кітая, Карэі, Сінгапура і і іншых азіяцкіх "эканамічных тыграў". Як і чакалася, з ліпеня істотна павысяцца для беларусаў мытныя пошліны на ўвоз іншамарак. Пасля анамальна цёплага лета летась, зіма сёлета была халоднай і марознай ніжэй нормы і пакуль не здае сваіх пазіцый.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Бельгійцы перакрылі сусветны рэкорд адсутнасці афіцыйнага ўрада, ягоныя міністры больш за 8 месяцаў працуюць, падаўшы ў адстаўку, але краіна жыве спакойна.

**Лівія.** Шмат ахвяр прынеслі масавыя выступленні пратэсту супраць дыктатара Муамара Каддафі, правячага краінай ужо больш за 40 гадоў.

**Літва.** Прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайтэ пацвердзіла, што Еўрасаюз станоўча адносіцца да яе прапановы аблегчыць візавы рэжым для простых грамадзян Беларусі.

**Кувейт.** Кіраўніцтва краіны аддзячыла сваё насельніцтва за падтрымку і спакой павышэннем на 700 $ пенсій, стыпендый, зарплат дзяржслужачым.

**ЗША.** На фоне сусветнага скачка цэн на харчаванне інфляцыя амерыканцаў не закранула, спажывецкія цэны за год выраслі толькі на 1-1,3 %, банкі павялічылі памеры выплат.

**Расія.** Лівійскі крызіс і рост цэн на нафту парадаваў кіраўніцтва РФ, бо значна ўзрастуць даходы расійскага бюджэту.

**Англія.** Брытанскі суд вырашыў перадаць заснавальніка скандальнага сайта Wikileaks Д. Асанжа ўладам Швецыі, дзе яго абвінавачваюць у злачынствах сексуальнага характару.

**Бельгія.** Еўрапарламент ледзь не ўвёў візавыя і эканамічныя санкцыі супраць кіраўніцтва РФ за шматлікія парушэнні правоў чалавека, разгоны мірных дэманстрацый пратэсту.

**Францыя.** Пракуратура курортнага горада Анціба на славутым Лазурным беразе арыштавала адразу дзве яхты збеглага ў Англію расійскага алігарха Барыса Беразоўскага.

**Малдова.** Краіну прызналі самай "пітушчай" у свеце, бо малдаване штогод выпіваюць па 18,2 літры алкаголю. У гэту сумную дзясятку ўвайшлі таксама РФ, Украіна і Беларусь.

**Новая Зеландыя.** Моцны землятрус днём практычна разбурыў другі па велічыні горад краіны Крайстчэрс, стыхія выклікала шматлікія чалавечыя ахвяры і разбурэнні будынкаў.

**Украіна.** Ва ўзросце 66 гадоў жыхарка Чарнігава ўпершыню нарадзіла першынца – даношаную здаровую дзяўчынку вагой 3,3 кг і ростам 54 сантыметры.

**Эстонія.** У сталіцы краіны Таллінe побач з узводзімай праваслаўнай царквой на плошчы імя знакамітага земляка, іерарха Алексія II, будзе ўстаноўлены і бюст гэтага святара.

**Расія.** Ноччу ў расійскай сталіцы зламыснікі з зайздрасці спалілі дарагакаштуючы легкавы аўтамабіль Maybach з нумарам 001, які каштаваў яго гаспадару, масквічу, 6 млн. долараў.

**Аўстралія.** Конкурс рыбакоў у штаце Квінсленд нечакана выйграў 9-гадовы хлопчык, які вылавіў на вовеоры Цінару рыбу барамундзі вагой 27 кг, ён цягнуў яе з вады 20 хвілін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Асацыяцыя па абароне аўтарскіх правоў запусціла праект "Тайны пакупнік" па барацьбе з прадаўцамі нелегальных камп'ютарных праграм і праграмнага забеспячэння.

**Баранавічы.** Яшчэ 300 млрд. рублёў выдаткуе дзяржава на выратаванне бабаўнянага аб'яднання, дзе летась вытворчасць упала на 35 %, а экспарт на 47 %.

**Гомель.** На мяжы банкроцтва кампанія "Гомельавія", яна спыніла палёты сваіх самалётаў на Мінск, Гродна і Калінінград, у лётчыкаў накапіліся вялізныя даўгі сваімі партнёрамі.

**Жлобін.** На адным з грандаў айчыннай індустрыі– БМЗ– пачалася падрыхтоўка да акцыяніравання, да 2013 года яшчэ 244 дзяржпрадпрыемствы будуць акцыяніраваны.

**Магілёў.** У СЭЗ "Магілёў" запусцілі ўнікальны завод "Ізабуд" па выпуску на італьянскім абсталяванні новых матэрыялаў па ўзвядзенні энергазберагальных дамоў і аб'ектаў.

**Брэст.** Глава вобласці К. Сумар запатрабаваў ад МНС пасля выбуху ў вёсцы Буякі закрываць усе цэхі і ўчасткі, дзе выяўляюцца грубыя парушэнні тэхнікі бяспекі працы.

**Пінск.** Вельмі жорсткае абвінавачанне па крымінальным артыкуле прад'явіла Генпракуратура РБ 75-гадоваму экс-дырэктару кампаніі "Пінскдрэў" Ларану Арынічу.

**Мінск.** Пасля двух месяцаў зняволення пад падпіску аб нявыездзе з СІЗА КДБ адпусцілі дамоў экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Алеся Міхалевіча, за кратамі яшчэ двое з кандыдатаў.

**Гомель.** Расійская кампанія "Карпарацыя "ГРЫНН" выйшла на беларускі рынак і, акрамя адкрыцця першага свайго гіпермаркета "Лінія", адкрыла шыкоўную дзіцячую пляцоўку.

**Мінск.** На ААТ "Гарызонт" пацвердзілі, што самыя танныя прыстаўкі-дэкодэры для пераходу на лічбавае ТБ будуць каштаваць мінімум 30 долараў, на лічбу пераход у 2015 г.

**Мазыр.** У мясцовым порце і ў гомельскім прывялі ў гатоўнасць ледаколы і буксірныя судны ў сувязі са складанай паводкавай сітуацыяй на рэках Прыпяць, Піна і Гарынь.

**Мір.** Філіял Мастацкага музея, замкавы комплекс "Мір" з яго тэрыторыяй у 26 гектараў неўзабаве атрымае статус Нацыянальнага музея, дзе ўжо ёсць 40 новых экспазіцый.

**Смалявічы.** У мароз прыйшлося аператыўна рассяліць па раёне 20 жыхароў пасёлка Чарніцкі з-за суседа-п'яніцы, які ўстроіў пажар у іх двухпавярховым драўляным доме.

**Мінск.** У судзе Маскоўскага раёна сталіцы міліцыянеры-сведкі перablыталі двух грамадзян Расіі, якіх абвінавачвалі па справе ўдзелу ў масавых беспарадках на плошчы.

**Шклоў.** З-за фінансавых праблем на радзіме лідара РБ расфарміравалі футбольную каманду "Спартак", якая 10 гадоў паспяхова гуляла ў чэмпіянаце Беларусі ў 1-2 –й лігах.

# «Белнафтахім» прызнаў павышэнне цэнаў на паліва




■ БелаПАН

**Канцэрн «Белнафтахім» афіцыйна аб'явіў пра павышэнне з 3 сакавіка цэнаў на бензін і дызельнае паліва.**

Рост кошту нафтапрадуктаў склаў ад 4,5% (бензін АІ-92) да 10,5% (дызпаліва). Рашэнне прынята «ў адпаведнасці з рашэннем камісіі па пытаннях імпарту энергарэсурсаў пры Савеце міністраў».

З 3 сакавіка 2011 года розничныя цэны на нафтапрадукты, якія рэалізуюцца праз АЗС, складаюць (за 1 літр):

бензін Нармаль-80 — 2.400 рублёў (было 2.250), бензін АІ-92 — 3.000 (2.870), бензін АІ-95, АІ-95-Еўра — 3.400 (3.240), дызельнае паліва — 2.850 (2.580).

«Змены цэн на нафтапрадукты, якія рэалізуюцца на ўнутраным рынку, выкліканыя ростам сусветных цэн на нафту і павелічэннем ставак акцызаў на падакцызныя нафтапрадукты, у сувязі з чым эфектыўнасць рэалізацыі нафтапрадуктаў на ўнутраным рынку значна пагоршылася», — гаворыцца ў паведамленні.

«Белнафтахім» прыводзіць статыстыку, паводле якой кацiроўкі нафты за студзень-люты 2011 года выраслі на 13,5%, за май 2010 года (тады адбылося папярэдняе павышэнне цэн на ўнутраным рынку) — люты 2011 года — на 37%.

З 1 студзеня 2011 года стаўкі акцызу на падакцызныя нафтапрадукты праіндэксаваны на 8%.

Канцэрн звяртае ўвагу спажыўцоў, што «ў сувязі з неўраджаем у 2010 годзе рапсу і значным скарачэннем аб'ёму вытворчасці рапсавага масла з 3 сакавіка 2011 года часова спынена рэалізацыя праз АЗС біядызельнага паліва». «У сувязі з такімі анамальнымі аграметэаралагічнымі ўмовамі» валавы збор алейнага насення рапсу ў краіне склаў 374,3 тыс. тон супраць 610,8 тыс. у 2009 годзе.

«Дэфіцыт масла рапсавага тэхнічнага для вытворчасці біядабаўкі да паліва (метылавых эфіраў тлустых кіслот) у арганізацыях канцэрна складзе, паводле папярэдніх падлікаў, больш за 50% патрэбнасці», — адзначаецца ў паведамленні.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыі вобласці з-за працяглых маразоў у лютым загінулі 16 чалавек, большасць нападпіткy, розныя абмаражэнні цела атрымалі яшчэ каля 200 жыхароў.

**Расоны.** У дрэваапрацоўчым цэху лясгаса запусцілі славенскую аўтаматызаваную шматпрофільную лінію па перапрацоўцы драўніны без адходаў фірмы "MEBOR".

**Віцебск.** Абласны венерычны дыспансер абзавёўся комплексам аўстралійскай вытворчасці коштам 196 млн. рублёў, які за секунды ставіць дыягназ і прызначае курс лячэння.

**Мёры.** Дэлегацыя раёна падчас візіту ў Чэхію падпісала дагавор з будаўнічай фірмай "Оксес-ДомІнвест" аб стварэнні СП і пабудове на Мёршчыне 4 сучасных жылых дамоў.

**Лёзна.** Аблваенкамат выдзеліў 170 млн. рублёў на абнаўленне і рамонт адзіных у РБ афіцэрскіх ваенных магілак у вёсцы Стасева, дзе пахаваны 182 удзельнікі жорсткіх баёў.

**Віцебск.** Абласны АБЭП распачаў крымінальную справу супраць дырэктара ювелірнай майстэрні, які вырабляў заказы без клеймаў дзяржаўнай прабірнай інспекцыі.

**Шуміліна.** Мясцовы бомж праз разбітае акно абакраў ноччу праваслаўную царкву ў райцэнтры, адкуль забраў 100 тыс. рублёў, крыж і 2 абразы, якія пазней прадаў у Віцебску.

**Глыбокае.** У аварыйны стан прыйшоў будынак Чарнеўіцкай сельскай бібліятэкі. Па вобласці ў кожнай трэцяй на вёсцы бібліятэкі няма нават тэлефона, камп'ютараў і Інтэрнэта.

**Браслаў.** Па колькасці аграсядзіб (117) азёрны край стаў лідарам на Віцебшчыне, аднак большасць з іх аказваюць паслугі адпачынку выхадных дзён і не болей.

**Дуброўна.** За забойства на глебе рэўнасці сваёй сужыцельніцы суд пакараў на 11 гадоў турмы 35-гадовага жыхара райцэнтра.

**Верхнядзвінск.** На конях з мая гэтага года пачнуць патруляванне памежнай зоны возера Асвейскае пагранічнікі Полацкага пагранатрада для падтрымання экалогіі тэрыторыі.

**Віцебск.** Міліцыя раскрыла афёру двух мясцовых фірм, якія прадавалі мабільныя тэлефоны па "шэрых" схемах і нанеслі за 2 гады ўрон дзяржаве на суму 1 мільярд рублёў.

**Паставы.** Па выніках працы ў 2010 годзе райарганізацыя ДТСААФ зноў заняла 1-е месца на Віцебшчыне, яе аўтапарк набыў новую вучэбную легкавую машыну канцэрна "Рэно".

**Шаркаўшчына.** Райаддзел міліцыі завёў крымінальную справу супраць беспрацоўнага 30-гадовага жыхара райцэнтра, які пасварыўся і моцна збіў шчоткай старую суседку.

**Віцебск.** Нацыянальны драмтэатр імя Я. Коласа застаўся без свайго мастацкага кіраўніка, рэжысёра Рыда Таліпава, памерлага ад запалення лёгкіх і інсульту на 62-м годзе жыцця.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Дзень баксёра ў Глыбокім

Трэнер вышэйшай катэгорыі В.М. Каляга.



■ Яўген Самсонаў

**Імя трэнера вышэйшай катэгорыі па боксу Віктара Мацвеевіча Калягі, дзякуючы значным поспехам яго вучняў, вядома не толькі ў нашай краіне, але і на абшарах бліжняга і далёкага замежжа.**

Традыцыйны баксёрскі турнір у Глыбокім быў прызначаны на 26 лютага невыпадкова. 27 лютага Віктар Мацвеевіч Каляга адзначаў 60-гадовы юбілей з нагоды дня народзін. З розных мясцін Беларусі і замежжа прыехалі яго былыя выхаванцы, каб павіншаваць свайго настаўніка з юбілеем і, зразумела ж, выказаць словы ўдзячнасці за тое, што ён, апроч выдатнай фізічнай падрыхтоўкі, выхаваў у іх найлепшыя чалавечыя якасці: мужнасць, годнасць, характар. Навучыў не толькі перамагаць, але і як годна прымаць паразу. Усе гэтыя якасці дапамаглі ім дамагчыся значных вяршынь у жыцці. А колькі было прыемных успамінаў і размоў! Вось, напрыклад, прыехаў з Масквы Мікалай Пашкевіч, адзін з лепшых выхаванцаў, шматразовы пераможца краіны і разнастайных міжнародных баксёрскіх турніраў. Упершыню прыйшоў займацца боксам больш за 20 год таму, і кожны год быў насычаны важнымі і значнымі падзеямі.

Намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Віналій Пяткевіч, начальнік аддзела па фізкультуры, спорту і турызму Міхаіл Арэхаў, дырэктар ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат" Анатоль Дук таксама завіталі ў залу баксёрскага клуба, каб павіншаваць юбіляра і ўручыць яму ганаровыя граматы і каштоўныя падарункі.

**Гісторыя бокса на Глыбоччыне**

У 70-х гадах мінулага стагоддзя Пётр Сяргеевіч Клімяценка, які быў накіраваны ў Глыбокае пасля заканчэння Віцебскага ветэрынарнага інстытута, быў першым настаўнікам па боксу ў Глыбокім. Пад час вучобы ён сур'ёзна займаўся і стаў чэмпіёнам БССР па боксу – КМС. Па тым часе КМС – найвышэйшае званне ў гэтым відзе адзінаборства, якое можна было атрымаць у БССР. Жадаючых займацца боксам было шмат. Лепшым яго вучнем быў КМС па боксу Аляксей Акулёнак. Пасля заканчэння Віцебскага тэхнікума фізічнай культуры Аляксей, вярнуўшыся ў Глыбокае і займаючы пасаду старшыні ДФСА "Ураджай", прыкладваў шмат намаганняў па развіцці гэтага віду спорта. Вялікую падтрымку ў станаўленні бокса на Глыбоччыне аказваў тагачасны начальнік аддзела фізкультуры і спорту Глыбоцкага райвыканкама Леанід Корнышаў. Але, як сказаў пад час урачыстасці Петр Клімяценка, наймацнейшы ў гэтым плане стаў Віктар Мацвеевіч Каляга. Ён здзейсніў усе іх задумы, нават больш.

**Школа бокса Віктара Калягі.**

Упершыню пра жаданне стварыць школу бокса на Глыбоччыне В. Каляга заявіў у 1987 годзе, прыехаўшы з Рыгі ў вёску Прошкава на сталае месца жыхарства. Праз год пераехаў у Падсвілле. Там было больш юнакоў, жадаючых займацца гэтым відам адзінаборства. Больш чым за дзесяць год В. Каляга падрыхтаваў не адзін дзясятак выдатных баксёраў, якія, у сваю чаргу, працягнуўшы далейшае навучанне ў вучылішчах алімпійскага рэзерву Віцебска і Мінска, дасягнулі вялікіх вынікаў на рэспубліканскіх і міжнародных рынгах. Майстры спорту: Мікалай Пашковіч, Ігар Яцкоўскі, Даніла Грумандзь, кандыдаты ў майстры спорту Юра Дук, браты Віталь і Зміцер Бельскія, Сяргей Бурэнь, Зміцер Васілеўскі, Аляксей Паўлоўскі, Андрэй Пяхоўскі, Аляксей Вінаградаў, Мікалай Кавалеўскі, Аляксей Хадасевіч, Аляксей Закрэўскі і шмат іншых выдатных баксёраў, якім проста на волі лёсу не пашчасціла атрымаць ганаровага звання МС і КМС, але ўсё ж яны былі пераможцамі і прызёрамі шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных турніраў на найвышэйшым узроўні, абаранялі гонар нашага краю, вобласці і краіны.

У 2000 годзе В. Каляга заснаваў баксёрскі клуб "Рынг" на базе спарткомплекса ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат", што і з'явілася чарговым штуршком да далейшага развіцця Глыбоцкай школы бокса. Маючы ўзаемапаразуменне і фундатарскую падтрымку з боку былых заўзятых спартоўцаў-баксёраў П. Клімяценкі, А. Акулёнка, старшыні Глыбоцкага райвыканкама М. Кандэрскага і пад апекай дырэктара прадпрыемства А. Дука планка спартыўных поспехаў была паднята да сусветнага ўзроўню. Найбольшую славутасць свайму першаму настаўніку, трэнеру вышэйшай катэгорыі, заваяваў Аляксандр Астроўскі, стаўшы прызёрам першынства Еўропы 2004 года. На першынстве свету Зміцер Леановіч (2005 год) і Аляксандр Астроўскі (2006 год) у складзе зборнай Рэспублікі Беларусь змагаліся за пуцёўку на ўдзел у Алімпійскіх гульнях у складзе зборнай краіны. У 2010 годзе Арцём Кісель таксама ў складзе зборнай краіны аспрэчваў галоўную ўзнагароду першынства Еўропы. Няхай нашы хлопцы і не дасягнулі найвышэйшай мэты, але і 5-8 месцы на прыступках сусветнага спартовага небасхілу каштуе многага. Па гэтым жа шляху разам з імі ішлі такія выдатныя спартсмены, як МС Дзяніс Заяц – пераможца РБ, цяпер трэнер па боксу ў Падсвіллі, шматразовыя пераможцы і прызёры рэспубліканскіх і міжнародных турніраў КМС: Юра Карабёнак, Лёня Шарабайка, Яўген Рудкоўскі, Аляксандр Самсонаў, Раман Васілевіч, Арцём Жынгель і шмат, шмат іншых талентавітых выхаванцаў.

За 22 гады трэнерскай працы юнакоў, жадаючых займацца боксам, было амаль паўтысячы, але Віктар Мацвеевіч 4/5 гэтага ліку не лічыць сваімі вучнямі, а называе іх "прыхажанамі". А вось прыблізна астатняя сотня – сапраўдныя спартсмены, спраўдзілі надзеі трэнера, годныя баксёры. З іх ліку 24 закончылі вучылішча Алімпійскага рэзерву, з'яўляліся, а некаторыя і цяпер з'яўляюцца членамі зборнай вобласці і зборнай РБ. Дарэчы, сачыце за спартыўнымі падзеямі: былы выхаванец В. Калягі, Зміцер Бельскі (цяпер яму 32 гады), будзе ўдзельнічаць у чэмпіянаце РБ па рукапашным боі сярод структур МУС, які адбудзецца 24 сакавіка ў Магілёве.

**Баксёрскі турнір імя Віктара Калягі**

Менавіта так было агучана галоўным суддзёй турніра Аляксеем Акулёнкам гэта спартыўнае свята.

У ім прынялі ўдзел лепшыя юныя баксёры з Віцебска, Наваполацка, Падсвілля і Глыбокага. Кіраўнік парада спартсменаў, суддзя на рынгу Аляксей Закрэўскі, даклаў намесніку Віцебскага абласнога спартыўнага клуба прафсаюзаў РБ Віктару Сімакову аб гатоўнасці юнакоў да паядынкаў. В. Сімакоў у кароткай прамове павіншаваў В. Калягу з нагоды юбілею з дня народзін, адзначыў заслугі трэнера і ўручыў Ганаровую грамату, каштоўныя падарункі і галоўную ўзнагароду клуба – нагрудны знак.

Натхнёныя важнасцю падзеі і прысутнасцю знакамітых зорак бокса, юнакі ў рынгу выкладваліся поўнасцю. Кожны іх бой быў па годнасці ацэнены гледачамі, ганаровымі гасцямі і кампетэнтным журы. Спраўдзілі надзеі свайго трэнера зоркі глыбоцкага бокса: Віталь Анкудовіч, Вадзім Нікалаеў, Яўген Дорахаў, Міхась Ждановіч, Максім Усцьян і Аляксандр Лаўрыновічы. Задаволены выступленнем сваіх выхаванцаў: Ільі Арлова, Яўгена Ледніка і Аляксея Савельева– застаўся і трэнер з Падсвілля Дзяніс Заяц. Пад стаць ім былі і спартсмены з Віцебска і Наваполацка.

У другой частцы ўрачыстасці на трэнера вышэйшай катэгорыі В. Калягу абрушыўся шквал падарункаў і слоў удзячнасці ад былых выхаванцаў. У сваіх шчырых прамовах А. Хадасевіч, М. Пашкевіч, Ю. Дук, Д. Бельскі, А.Пяхоўскі, А. Маняк, А Паўлоўскі, Д. Заяц, С. Будо, Л. Шарабайка, І. Юшкевіч, К. Грыцкевіч, П. Васілевіч і іншыя былыя выхаванцы ўзгадвалі мінулае і жадалі і надалей свайму настаўніку здароўя і творчых поспехаў. Складвалася ўражанне, што знаходзішся на свяце вялікай дружнай сям'і. Калі цябе помняць, паважаюць і шануюць– значыць, жыццё пражыта не дарэмна. Улічваючы, што Віктар Мацвеевіч не збіраецца ісці на заслужаны адпачынак, застаецца пажадаць у дадатак да ўсіх зычэнняў, каб збылася яго запаветная мара – яго вучань стаў прызёрам Алімпійскіх гульняў.

Узгадваецца традыцыйны турнір па грэка-рымскай барацьбе, які праходзіў пару месяцаў таму тут жа, у Глыбокім. Не хапіла рашучасці ў арганізатараў, каб назваць падзею сваім імем – турнір імя Аляксандра Кузняцова, хаця ўсе прысутныя на гэтым спартыўным свяце свядома адчувалі, дзякуючы каму і ў гонар каго яны сабраліся.

На мой погляд, гэта і ёсць адрозненне барацьбы ад бокса. Своеасаблівы аперкот – проста, хлёстка, трапна і бясспрэчна.

Не грэх было б валейбалістам задумацца аб турніры імя свайго трэнера Івана Іванавіча Дубіны, правесці яго нават на рэспубліканскім узроўні, выставіўшы глыбоцкіх хлопцаў, што іграюць у складзе нацыянальнай зборнай і вядучых валейбольных клубах краіны.



Былыя выхаванцы са сваім настаўнікам.

■ Марціновіч Дз.А., *псіхолаг ТЦСАН.*

# Яны хвіліну дарослыя, хвіліну дзеці

**Прагульваць урокі, сварыцца з людзьмі - усё гэта і шматлікае іншае стала звычайнымі паводзінамі для сучаснага падлетка. Агрэсія для школьніка цалкам прымальны тып паводзін. У яго цяжкі ўзрост: ён ужо не дзіця, але яшчэ і не дарослы і агрэсія для яго з'яўляецца разрадкай, спосабам «выпусціць пару». А няўменне разраджацца вядзе да трагедый, калі дзеці б'юць адзін аднаго і здымаюць усё гэта на мабільнікі.**

**Галоўная** крыніца агрэсіі – гэта суровыя фізічныя пакаранні і славесныя зневажанні, якім падвяргаюць дзіця бацькі і настаўнікі. Чалавек, звыклы да збіцця і зневажанняў, становіцца больш цынічным і грубым, яму невядома спагада да чужых пакут. **Другая** прычына – перанасычэнне сучасных фільмаў і тэлеперадач сцэнамі гвалту і фізічнай агрэсіі. Калі ваша дзіця глядзіць выключна кулачныя баі і баевікі, у якіх персанажы забіваюць сабе падобных дзесяткамі і ніхто не праяўляе нават болю з нагоды іх пакут і смерці, то ў вашага дзіцяці падтупліваецца здольнасць спачуваць. **Трэцяе** – гэта нізкая самаацэнка падлетка, які раўняецца на лідара і ператвараецца ў «ваўчанё ў зграі». Куды ўсе – туды і ён. **Чацвёртае** – уласцівае падлеткам жаданне згуртавацца і даказаць старэйшаму пакаленню, што час бацькоў прайшоў, што будзе новае племя, больш адважнае, мацнейшае, больш дзёрзкае, больш прадпрымальнае. **Пятае** – жаданне выклікаць захапленне юнай сяброўкі. Праблемы, падобныя апошнім дзвюм, стаялі перад чалавецтвам заўсёды, і мэта грамадства – дапамагчы падрастаючаму пакаленню сублімаваць стыхійную энергію ў творчасць, у стваральныя заняткі і захапленні. **Шостае** – неўсвядомлены страх смерці, напамінкам пра якую з'яўляюцца старыя людзі. Бацькі могуць выхаваць павагу да старых людзей толькі ўласным прыкладам.



Такім чынам, выкараніць падлеткавую агрэсію можна, калі прытрымлівацца наступных правіл: ставіцца да дзяцей і падлеткаў з павагай, не праяўляць грубасці ў адносінах да іх, імкнуцца гаварыць з імі на роўных; вучыць дзіця праяўляць негатыўныя пачуцці словамі, а не кулакамі; абмяжоўваць час ля тэлевізара і выключаць з эмацыйнага рацыёну дзіцяці фільмы і перадачы, у якіх услаўляецца гвалт і забойства (Дом 2); прывіваць любоў да чытання, на літаратурных прыкладах выхоўваць спагаду да слабых, жаданне дапамагчы; вучыць падлеткаў не заражацца энергіяй зграі, а выбіраць прыяцеляў, з якімі ёсць не толькі агульныя інтарэсы, але і ўзаемная павага і разуменне; праводзіць з дзіцем і падлеткам час на прыродзе, гуляць у рухомыя гульні, далучаць да заняткаў спортам, да гурткоў і факультатываў (улічваючы перавагі дзіцяці); звяртацца за прафесійнай псіхалагічнай дапамогай, калі ваша дзіця атрымлівае асалоду, катуючы звяркоў ці больш слабых людзей (хутчэй за ўсё, дзіця проста не ўмее выказваць негатыўныя эмоцыі і перажыванні іншым, больш мірным спосабам); сачыце за сабой – не рабіце адрозненняў у адносінах з вашымі дзецьмі, не рабіце патуранняў аднаму дзіцяці ў тым, чаго не прабачылі б другому; абмяркоўвайце разам з дзіцем важныя сямейныя справы, не адхіляйце яго ад удзелу ў іх: ён павінен адчуваць, што яго меркаванне ўлічваецца і мае значэнне; не чакайце, што падлетак прыме любую вашу параду ці распараджэнне і бясспрэчна стане яго выконваць, настроіўшыся загадзя на пакору і паслухмянасць; падчас сваркі дзіця можа выпаліць тое, што ён не думае насамрэч: што ён не любіць вас, ненавідзіць і гэтак далей; майце на ўвазе, што гэта сказана пад уздзеяннем эмоцый, у запале, не рабіце высноў, не ўпадайце ў паніку; ведайце, што не бывае ідэальных бацькоў, усе ў чымсьці робяць памылкі, не трэба ўвесь час вінаваціць сябе, што вы дрэнная маці ці нікчэмны бацька, – гэта толькі павялічыць вашу няўпэўненасць у сабе і не дазволіць прыняць правільнае рашэнне ў патрэбны момант; дзіцяці трэба ўмець заняць, адцягнуць ад негатыву (можна адвесці дзіця ў секцыю, басейн, у школу танцаў ці клуб інтэлектуальных гульняў – заўседы ёсць выбар); пачніце з сябе: станьце для падлетка прыкладам для пераймання, каб ён паважаў не музыкаў і спевакоў, а бацькоў і настаўнікаў; навучыцеся быць бліжэй да дзіцяці, разумець яго і прыслухоўвацца да яго (найперш, не крычыце на сваё дзіця за жорсткасць, паспрабуйце высветліць, як дзіця ставіцца да гэтага, навошта ён гэта робіць, проста накрычаўшы на дзіця, вы рызыкуеце страціць яго давер і ў наступны раз ён вам нічога не раскажа, а замест мараляў прапануйце падлетку паставіць сябе на месца ахвяры– гэта вельмі эфектыўна, паколькі дзеці звычайна бачаць сябе пераможцамі і, бывае, проста не ўсведамляюць таго, што іншы чалавек пакутуе); бацькам трэба вучыцца разумець свайго дзіця, па драбнютkіх прыкметах вызначаць яго настрой, захапленні і накіроўваць усё ў стваральнае рэчышча (напрыклад, калі сын зачытваецца фантастыкай – падарыце яму добрыя якасныя кнігі, трэба дзейнічаць на апярэджанне – не чакаць, пакуль дзіця пойдзе ў двор, дзе яго разумеюць і прымаюць такім, які ён ёсць, а заадно і «вучаць» невядома чаму).

Некантралюемая агрэсія – гэта не што іншае, як усяго толькі дрэнная звычка. Гэта як звычка калупаць у носе ці грызці ногці. На тыя ці іншыя непрыемныя сітуацыі ці раздражняльнікі вы звыкліся рэагаваць агрэсіўна. Кожны раз, калі вам хочацца рэзка зрэагаваць, спыніцеся на секунду і задумайцеся, ці прынясе такая рэакцыя вам карысць. Хутчэй за ўсё не, вы будзеце шкадаваць аб гэтым і будуць сапсаваны адносіны! А ўсё з-за благой звычкі. Вядома, пакідаць негатыў у сабе таксама шкодна, паспрабуйце пасля таго, як стрымалі сваю агрэсію, прабежку ці баксёрскую грушу, проста выплюхніце энергію!!! Не звычкі павінны панаваць над чалавекам, а чалавек над звычкамі. Так што поспехаў вам і няхай у вас будуць толькі добрыя звычкі!

# Масленіца ў Глыбокім



**Фота на памяць: удзельнікі мастацкай самадзейнасці, якія прэзентавалі сябе сталымі чытачамі «Вольнага Глыбокага».** *Здымак Ул. Скрабатуна.*

**Ма́сленіца, сырны тыдзень (да рэформы арфаграфіі – «масляніца») – народны святочны цыкл, які захаваўся на Беларусі з паганскіх (дахрысціянскіх) часоў. Абрад звязаны з провадамі зімы і сустрэчай вясны.**

Масленіца атрымала сваю назву ад таго, што ў гэты перыяд часу — апошні тыдзень перад Вялікім пастом, дазваляецца ўжыванне ў ежу масла, малочных прадуктаў і рыбы. У праваслаўным царкоўным календары гэты перыяд завецца Сырнай седміцай— тыдзень (седміца), наступны за мясапустнай седміцай. У яе працяг Статут прадпісвае ўстрымлівацца ад мяса (але не іншых скаромных прадуктаў), прычым звычайны пост у сераду і пятніцу адмяняецца; у сераду і пятніцу Сырнай седміцы не здзяйсняецца літургія. У праваслаўнай царкве лічыцца, што сэнс Сырнай седміцы — прагадненне з блізкімі, прабачэнне крыўд, падрыхтоўка да Вялікага паста — час, які трэба прысвяціць дабрачыннасці,добрым зносінам з блізкімі, роднымі, сябрамі.

Дата пачатку Масленіцы кожны год змяняецца ў залежнасці ад таго, калі пачынаецца Вялікі пост. Галоўныя традыцыйныя атрыбуты народнай імпрэзы Масленіцы ў Беларусі — бліны і гулі.

## Да канца гэтага года МАЗ плануе пачаць серыйную вытворчасць мікрааўтобусаў

**Да канца гэтага года ААТ «МАЗ» плануе пачаць серыйную вытворчасць мікрааўтобусаў. Пра гэта паведаміў журналістам 4 сакавіка галоўны канструктар філіяла «АМАЗ», які вырабляе аўтобусы, Аляксандр Мышко.**

Паводле яго слоў, створаны новы клас аўтобуснай лінейкі МАЗа. Мікрааўтобус прызначаны ў асноўным для ведамаснага выкарыстання ў якасці службовага транспарту (умяшчальнасць 14 месцаў). Аснашчаны рухавіком стандарту Еўра-3 і Еўра-4 магутнасцю 75 кВт, пяціступенчатай каробкай перадач.

Мікрааўтобусы будуць выпрацоўвацца на заводзе «Магілёўтрансмаш», які ўваходзіць у ВА «БелАўтаМАЗ». «Мікрааўтобус арыентаваны ў першую чаргу на ўнутраны рынак, а таксама на рынкі краін МС і СНД», паведаміў Мышко. Ён не выключыў магчымасці паставак і ў краіны далёкага замежжа.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Увага, вадзіцелі, дзікія жывёлы!

**А.А. Федзічкін,**
*намеснік начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Вельмі часта вадзіцелі трапляюць у непрыемныя сітуацыі, якія звязаныя з ДТЗ з удзелам дзікіх жывёл. У выпадку здзяйснення дарожна-траспартных здарэнняў з гібеллю ці раненнем дзікіх жывёл вадзіцелю неабходна паведаміць пра ДТЗ у органы ўнутраных спраў, а таксама ў прыродаахоўныя органы. Забіраць сабе або везці загінуўшых ці параненых жывёлаў з месца ДТЗ нельга! Падобныя дзеянні паводле заканадаўства з'яўляюцца парушэннем. Грамадзянін можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай ці крымінальнай адказнасці.

Загінуўшая ці параненая жывёла з'яўляецца ўласнасцю карыстальніка паляўнічых угоддзяў.

Аднак яшчэ вельмі часта законапаслухмяныя грамадзяне трапляюць у непрыемныя сітуацыі з-за няведання закона.



2 сакавіка 2011 года два таварышы, жыхар г. Глыбокае і жыхар г. Паставы, вярталіся дадому з-за мяжы, было ўжо позна, цёмна, смуга. Праехаўшы беларуска-латвійскую мяжу, сябры трохі расслабіліся і страцілі пільнасць пры кіраванні машынай. Не даязджаючы прыкладна 5 км да г. Браслава, яны ўбачылі аўтамашыны на абочыне, але не надалі значэння, як раптам штосьці страсянула машыну, быццам наехалі на перашкоду. Спыніўшыся, выйшлі з машыны і ўбачылі на дарозе тушу дзіка, якога ўжо збіла стаяўшая на ўзбочыне машына. Пакуль вадзіцель аўтамашыны, жыхар г. Глыбокае, аглядаў пашкоджанні на аўтамашыне, яго таварыш, доўга не думаючы, зацягнуў тушу ў багажнік машыны. Навошта дарма знікаць мясу! Гаспадар машыны запрацівіўся: навошта кабан, салон машыны вышмараваў, ды і вадзіцелі іншых машын бачылі, могуць паведаміць у міліцыю, давай пакінем, але таварыш быў непахісны. Ніхто нічога не ўбачыць, а нам мяса дастанецца.

Пра тое, што забіраць і перавозіць тушы загінуўшых пры ДТЗ дзікіх жывёлаў нельга, жыхар г. Паставы таварышу не сказаў, хоць ён з'яўляецца паляўнічым і ведае правілы палявання, як і не паведаміў, што за гэта можна панесці пакаранне.

Усё прайшло добра. Прыехаўшы дахаты, жыхар г. Паставы забраў сабе тушу і спакойна лёг спаць, але раніцой яго ўжо разбудзілі супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Зараз двум таварышам прыйдзецца адказаць перад законам, а штраф за здзейсненае парушэнне чакае да 50 базавых велічынь.

Прыведзены прыклад, на жаль, не адзінкавы на тэрыторыі вобласці, а таму, каб не патрапіць у непрыемныя сітуацыі, чытайце заканадаўства.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць у Глыбоцкую міжрайінспекцыю на тэлефон «гарачай лініі»: 2-86-70 (кругласутачна). Маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Цэны на большасць тавараў у Беларусі сталі свабоднымі

**Цэны на большасць тавараў у краіне сталі свабоднымі. Увайшоў у сілу ўказ прэзідэнта № 72 «Аб некаторых пытаннях рэгулявання цэн (тарыфаў) у Рэспубліцы Беларусь» ад 25 лютага.**

Дзяржава з гэтага часу будзе рэгуляваць толькі цэны і тарыфы на тавары (паслугі), якія маюць «найбольш важнае значэнне для арганізацыі эканамічнай бяспекі краіны, а таксама на прадукцыю арганізацый-манапалістаў і сацыяльна важныя тавары (паслугі)», зазначаецца ў паведамленні прэс-службы прэзідэнта.

У іх ліку – малако, хлеб, мяса, нафтапрадукты, камунальныя, рыэлтарскія, натарыяльныя, адукацыйныя і некаторыя медыцынскія паслугі, шэраг іншых тавараў і паслуг.

Цэны на тавары (работы, паслугі), якія не ўвайшлі ў пералік тых, што рэгулююцца, суб'екты прадпрымальніцкай дзейнасці могуць фарміраваць самастойна з улікам кан'юнктуры рынку.

23 лютага прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, выступаючы ў парламенце, паабяцаў: «Якога-небудзь абвальнага росту цэн у Беларусі не плануецца і не будзе». «Нічога дрэннага не будзе, няма зусім ніякіх перадумоў, каб штосьці абвалілася, здарылася ці ўзляцела кудысьці. У нас дастаткова стабільная эканоміка, эканоміка на ўздыме», — заявіў ён.

На думку Мясніковіча, сёння ў грамадстве занадта шмат увагі надаецца пытанню павышэння цэн. «Вядома, гэта закранае ўсіх і кожнага, але гэта не нейкая мэта ўрада накручваць цэны — гэта жывая эканоміка», — растлумачыў ён.

Незалежныя эксперты разглядаюць указ як прагрэсіўны крок на шляху лібералізацыі эканомікі, але пры гэтым зазначаюць, што ён спазніўся гадоў на 15.

«Указ будзе эфектыўна працаваць толькі ў тым выпадку, калі дзяржава здолее стварыць умовы для рэальнай канкурэнцыі», — упэўнены кіраўнік Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Сяргей Балыкін.

«І размова не толькі пра абмежаванні ў дачыненні да манапалістаў. Вялікай праблемай з'яўляецца абцяжараны ўваход на рынак для невялікіх прадпрыемстваў. Яна параджаецца існымі ў краіне бюракратычнымі цяжкасцямі і асабліва нефармальнымі абмежаваннямі і забаронамі. Таму калі дзяржава сапраўды імкнецца стварыць эфектыўную рынкавую эканоміку, а не дзяржаўны капіталізм у самых горшых яго формах, то яна павінна абмяжоўваць магчымасці чыноўнікаў умешвацца ў справы суб'ектаў гаспадарання», — заявіў БелаПАН эксперт.

*Марына Носава, БелаПАН.*




**Дарагую матулю і бабулю**

*Эдуарду Аляксандраўну Квач*

**Віншуем з 70-годдзем!**



Мамочка наша родная, любимая,
Бабушка славная, незаменимая,
С днём рожденья тебя поздравляем,
Всяческих благ в твоей жизни желаем.
Чтобы ты никогда не болела,
Чтобы ты никогда не старела,
Чтобы вечно была ты для нас молодой,
Весёлой, доброй и нужной такой.

*Муж, дзеці, унукі*

*Таццяну Смоткіну*

**Віншуем з днём нараджэння!**



Желаем долгих и счастливых лет,
Желаем, чтобы жизнь была такая,
В которой для печали места нет,
В которой радость без конца и края!
Желаем верных, любящих друзей,
И чтоб мечты заветные сбывались,
И на дороге жизненной твоей
Лишь добрые события случались.

*Калектыў "ВГ"*

*Вольгу і Мікалая Кукоўскіх*

**Віншуем з днём нараджэння!**



Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей хороших и весёлых,
Везенья в жизни, долгих лет!
Желаем, чтоб ушли печали,
Чтоб близкие не огорчали,
Чтоб были вёсны средь зимы и лета,
Чтоб было много-много света!
Чтобы преградам всем назло
Жилось, любилось и везло!
Чтоб всё заветное могло свершиться,
Ведь ради этого и стоило родиться!

*Сям'я Скрабатуноў*

# З 1 сакавіка набыло моц рашэнне аб адмене консульскага збору за эстонскую нацыянальную візу для грамадзян Беларусі

**З 1 сакавіка Эстонія адмяніла консульскі збор за доўгатэрміновую нацыянальную візу для грамадзян Беларусі.**

Такое рашэнне было прынята 3 лютага на пасяджэнні эстонскага ўрада. Міністр замежных спраў Урмас Паэт заявіў, што мэта гэтага кроку — выказаць падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Падставай для хадайніцтва аб выдачы нацыянальнай візы з'яўляецца кароткатэрміновая праца ў Эстоніі — напрыклад, прадстаўнікоў творчых прафесій, выкладчыкаў, студэнтаў, спартсменаў, трэнераў. Нацыянальную візу таксама можна атрымаць для вучобы, догляду хворага сваяка, для працы нянькай. Доўгатэрміновая віза дае права знаходзіцца на тэрыторыі Эстоніі да 180 дзён на працягу года.

Аналагічнае рашэнне, нагадаем, прынялі Польшча і Латвія.

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН.*

# У мяне праблем з падарункамі не будзе

**Перад святам 8 Сакавіка як заўсёды паўстае пытанне: што купіць, чым на гэты раз здзівіць сваю жанчыну. Кветкі – гэта, канечне, абавязковы атрыбут свята. На рынку і ў магазінах вялікі выбар: цюльпаны, ружы, гваздзікі, мімозы. Але хацелася б падарыць штосьці незвычайнае.**

Быў нядаўна на малым рынку ў Глыбокім і хацеў набыць падарункі для дарагіх мне жанчын. Хадзіў ад адной палаткі да другой, нічога не мог выбраць. Выпадкова маю размову з прадаўцом пачула дзяўчынка год 10-12. І яна проста мне прапанавала: "А Вы зайдзіце ў наш Дом рамёстваў. Я тут займаюся. У нас на другім паверсе ёсць салон-магазін, а там можна такі падарунак падабраць – не паверыце. І галоўнае – другога такога ўжо ні ў каго не будзе". Я падзякаваў дзяўчынцы, самому стала цікава і я зайшоў у магазін. І ведаеце, быў вельмі здзіўлены: чаго толькі там няма ў продажы – і карціны, напісаныя маслам, і вышытыя бісерам, розныя вырабы і толькі ў адзіным экземпляры. У мяне разбегліся вочы. Тут я падабраў падарункі для сваёй маці, любімай жанчыны і яшчэ сваяму жаночаму калектыву на рабоце. Так што цяпер магу сказаць, што такіх падарункаў не будзе ні ў каго іншага, і мае жанчыны змогуць гэтым ганарыцца. Я ведаю, што яны вельмі любяць між сабой абмяркоўваць, хто каму што падарыў.

Хачу праз газету выказаць усяму калектыву Дома рамёстваў падзяку за такі цікавы магазін, за цудоўнае абслугоўванне. Цяпер я ведаю, у мяне праблем з падарункамі не будзе.

Дзесьці даўно я прачытаў верш, і ён запаў мне ў душу. Усім жанчынам прысвячаецца.

Не бывает женщин некрасивых,
В каждой есть изюминка своя.
И не только в юных, стройных, милых –
Радость жгучей страсти и огня.
Творец и полных явно не обидел,
Дал им нежность, ласку и тепло.
Еву сотворяя, он предвидел –
Пышность не испортит никого.
Возраст? Что ж, он тоже не помеха,
Женщина душою молода,
Сколько в ней задора, сколько смеха,
И коварства тоже – хоть куда.
В старости всегда она прекрасна,
Мудрости полны ее слова,
Хоть не счесть морщин, но всем нам ясно:
За плечами жизнь – ее года.
Женщине немного надо счастья,
Чтоб плыла, кружилась голова,
Быть в глазах мужчины самой-самой,
Чтоб любил ее, как сам себя.
Сколько их таких – шальных, игривых,
Каждому дана своя одна.
Не бывает женщин некрасивых,
В каждой есть изюминка своя.

*Чытач «ВГ»*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

14 – 20 сакавіка 2011 г.







Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў.

Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.









## ПАНЯДЗЕЛАК, 14 сакавіка




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.05** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** , Доброе утро, Беларусь!.
**07.05, 08.10**, Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь» .»Я не такая как все».
**10.05** «Здоровье».
**10.35** «Культурные люди».
**11.05** «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звездные мамы-2».
**12.10** Мелодрама **«Рита»** (Россия).
**14.05** Документально-биографический цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «Надежда Румянцева. Подарить надежду».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 «Маршрут милосердия»**
**17.25 «Затмение»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 01.10** «Зона Х».
**19.30** «КЕНО».
**19.35** «Арена».
**20.00** Видеофильм АТН «Анархия. Прямое действие».
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка. Журналистское расследование».
**22.00«Обмани меня2»**
**23.15 «Короли улиц»**
**01.15** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила»**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Тележурнал «Союз».
**11.50 «Папа на все руки».**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**17.05 «Слово женщине».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «40 дней крестьянской республики. Фильм 1-й».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** «След».
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Женщины хотят танцевать».
**00.20 «Иван Подушкин.Джентльмен сыска».**
**01.10-01.30** Ночные новости.






**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»**
**09.05 «Ты моя жизнь»**
**10.15 «Большие надежды»**
**12.10** Пра мастацтва.
**12.35** Школа ремонта.
**13.35** Час суда. Дела семейные.
**14.35 «Сила притяжения»**
**15.25** Новости погоды.
**15.50 «Налетчики»**
**16.45 «Чисто английские убийства»**
**17.50 «Ты моя жизнь»**
**18.55** Хоккей. КХЛ.Плей-офф. Полуфинал конференции«Запад». Матч4-й.Вперерыве Калыханка.
**21.35** Телебарометр.
**21.40** Белорусское времечко.
**22.45 «Интерны»**
**23.20 «Универ»**
**00.00** Овертайм.
**00.30 «Налетчики»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Держи меня крепче». Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Клиническая смерть. Путешествие души».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Алесь Камоцкий против группы «Ногу свело».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35**«Кинопонедельник»: **«БЕЗУМНЫЙ НОЯБРЬ»**. Россия, 2008 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Кино»: **«ДВАЖДЫ ВЧЕРА»**.




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 «Беспрацоўныя панядзелкі»**, маст. фільм,
**9:25** «"Курск" – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм
**10:35** ПраСвет
**11:05** Эксперт
**11:30** Басанож па свеце
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Беспрацоўныя панядзелкі»**
**13:55** «"Курск" – субмарына ў каламутнай вадзе», дак. фільм
**15:10** Прэс-экспрэс
**15:25** ПраСвет
**15:55** Эксперт
**16:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:30** Басанож па свеце
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Піпі Доўгаяпанчоха»**: 4 серыя
**17:35«Час гонару»**: 20 с
**18:25** Хто ёсць кім?: «Лідаркі», 2010 г., Польшча
**18:40** Прэс-экспрэс
**18:55** «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм ч. 2
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:15** Моўнік
**20:35**«Амазонкі глыбокіх крыніц», г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25**Прыватнаякалекцыя
**21:55 «Заказное забойства»**
**23:25** Аб'ектыў
**23:50** Гарачы каментар

